БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
АДДЗЕЛ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК
КАТЭДРА ЭТНОГРАФІІ



# БЕЛАРУСКІ
# ТКАЦКІ ОРНАМЭНТ
## ПЕРАБІРАНАЙ І НАКЛАДНОЙ ТЭХНІКІ

Сабрала А. Астрэйка

МЕНСК—1929

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК

АДДЗЕЛ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК

КАТЭДРА ЭТНОГРАФІІ



# БЕЛАРУСКІ
# ТКАЦКІ ОРНАМЭНТ
## ПЕРАБІРАНАЙ І НАКЛАДНОЙ ТЭХНІКІ

Сабрала А. Астрэйка



МЕНСК—1929

## АД АЎТАРА.

Надзвычайна багаты і рознастайны матар'ял даюць для вывучэньня беларускага орнамэнту ручнікі і набожнікі—продукты колектыўнай творчасьці беларускай жанчыны.

На жаль гэта марудная і карпотлівая работа мясцамі ўжо зусім зьнікае. Пры тэй аграмаднай працы, якую выконвае беларуская жанчына пры гаспадарцы і сям'і, трэба мець вялікую любоў, разуменьне і імкненьне да прыгожасьці, каб знайсьці час для гэтай працы. Ніякіх зарысовак вясковыя ткачыхі-мастачкі ня робяць. Яны ўтрымліваюць рысунак або ў памяці або бяруць узоры ад суседзяў, зьмяняючы і дапаўняючы рысунак узору паводле сваёй спадобы, смаку і здольнасьцяй. Найстарэйшыя працы вытканы па льнянай аснове і ператканы ільном або воўнай. Калі-ж бавоўна знайшла доступ у вёску, то ўток для ўзору пачаў застасоўвацца заўсёды з бавоўны, а ў апошнія часы нават белая аснова стаўлялася з сучанай белай бавоўны і толькі ператыкаюць белым ільном. Пастараюся, як можна карацей апісаць прымітыўны спосаб вытыканьня гэтых узораў.

На звычайных вясковых кроснах запраўляецца аснова. Завостранай лучынкай, перад бярдом, ткачыха разьлічае ніткі і набірае іх на лучынку. Калі ўвесь першы рад рысунку ва ўсю шырыню тканіны набраны, лучынка стаўляецца рабром, раздзяляючы ніткі асновы ўздоўж. У вытвараны гэткім чынам зеў укладаюць за нітамі шырокую дошчачку і стаўляюць яе рабром. Трэба заўважыць, што кожная клетка рысунку складаецца з трох нітак чырвонага ўтоку, які і формуе ўзор, а тры белыя ўточныя ніткі робяць простае пераплятаньне палатнянага дна, г. зн. самой тканіны. Дзеля гэтага пасьля каждай чырвонай ніткі трэба перакінуць адзін раз белы ўток каб атрымаць белае дно. Дык, вось, дошчачка за нітамі паднята і першая чырвоная нітка заткана. Тады дошчачка кладзецца плашмя, а пры дапамозе понажаў паднімаецца зеў для чаўнака з белай ніткай. Так паўтараецца тры разы, і першы рад рысунку гатовы. За нітамі замест дошчачкі закладаецца цененькі вярбовы пруточак, дошчачка выймаецца, а пруточак застаецца і адсуваецца магчыма далей ад нітоў, бо пры шырокім узоры іх можа набрацца да 80 штук.

Далей ткачыха набірае на лучынку другі рад рысунку, так-жа пераводзіць яго за ніты і, праткаўшы тры разы, замяняе дошчачку пру-

точкам і калі гэткім чынам рысунак набраны да палавіны, ткачысе ня трэба больш лічыць і набіраць ніткі кожнага наступнага раду рысунку, бо рысунак ідзе ў адваротным парадку. Яна проста пачародна замяняе заложаныя пруточкі дошчачкай і праца ідзе тым-жа спосабам як перш.

Для гэтай працы ткачысе патрэбна памочніца, якая закладае і ў свой час паднімае дошчачку за нітамі, закладае пруточкі, калі трэба выймае іх, словам робіць тую неадказную работу, якую можа рабіць маленькая дзяўчынка, што аднача вызваляе ткачыху ад заўсёднага ўставаньня і значна прысьпяшае работу.

Гэтак выпрацоўваюцца „набіраныя“ ўзоры, г. зн. тыя, пры каторых каляровая нітка праходзіць праз усю шырыню тканіны. Але ёсьць яшчэ т. званае „накладное“ тканьне (рыс. 1, 14, 21). Рысунак такога тканьня складаецца з паасобных, далёка адлеглых адна ад аднэй фігур. Ход працы той-жа, як і ў набіраных узорах, толькі кожную асобную фігуру затыкае асобны чаўнок, нават калі ўсе фігуры ткуцца ўтокам аднаго колеру. Робіцца гэта таму, каб на адвароце, з благой стараны, не аставалася доўгіх не затканых нітак. Сьцісла кажучы ў „перабіраных“ узорах няма благой стараны, бо адна старана ўяўляе сабой нэгатыў, а другая позытыў аднаго і таго-ж рысунку. Абедзьве стараны прыгожы, толькі адна ярчэй, а другая сьвятлей. Ёсьць і такія ўзоры, на якіх абедзьве стараны зусім аднастайны (рыс. № 15). Паміж сабраных рысункаў ёсьць як „набіранай“ так і „накладаной“ тэхнікі, але бываюць здарэньні, калі на адным ручніку бывае адна і другая тэхніка (рыс. 26, 33, 61, 63). Вывучаючы рысункі, часта ўдаецца прасачыць як просты мотыў, паступова абагачаючыся ў руках здольнай ткачыхі, абяртаецца ў прыгожы, складаны орнамэнт. З гэтай стараны асабліва цікавы рысунак № 60, які бязумоўна выяўляе сабой канечнае разьвіцьцё і дасканаленьне рысункаў № 26 і 59. Пачатковыя-ж элемэнты рысунку № 60 мы знаходзім ужо ў рысунках № 12 і 30.

Сабраныя мной у Старасельскім і суседніх с/с рысункі далёка ня вычэрпваюць багатага запасу продуктаў творчасьці беларускай ткачыхі. Я паставіла сабе мэту зафіксаваць хоць-бы дзе-якія прыклады мастацтва, якое зьнікае, даўшы іх ў тэхнічна апрацаванай форме, што дасьць магчымасьць практычна выкарыстаць даны матар'ял. Поўнае і глыбокае вывучэньне народнага беларускага ткацкага орнамэнту даступна толькі колектыву дасьледчыкаў.

А. Астрэйка.

---

# ПАКАЗЧЫК КРЫНІЦ.

| № | Прозьвішча і імя | Назоў мясцовасьці | Сельсавет |
|---|---|---|---|
| 1 | | | |
| 2 | Вугалёва | хут. Лукі | Старасельскі |
| 3 | Куратнікава Праксэда | в. Булёнкі | „ |
| 4 | Макараў Анціп | х. Сілінаўка | Летчанскі |
| 5 | | | |
| 6 | Іськенкава Юстуся | в. Хвастова | Пагарэліцкі |
| 7 | Куратнікава Праксэда | в. Булёнкі | Старасельскі |
| 8 | Макараў Анціп | х. Сілінаўка | Летчанскі |
| 9 | | | |
| 10 | | | |
| 11 | | | |
| 12 | | | |
| 13 | | | |
| 14 | | | |
| 15 | Дубіна Сымон | в. Татаркі | Амбросаўскі |
| 16 | Максімава Агата | в. Гарадня | „ |
| 17 | Дубіна Сымон | в. Татаркі | „ |
| 18 | Шыліна Грыпіна | в. Старае Сяло | Старасельскі |
| 19 | Кушына Надзея | „ „ | „ |
| 20 | Дубіна Матрона | в. Татаркі | Амбросаўскі |
| 21 | | | |
| 22 | | | |
| 23 | Маркава Тацяна | в. Запрудзьдзя | Старасельскі |
| 24 | Сыраватнікава Наталя | в. Плітніца | „ |
| 25 | Пракопчык Ульяна | х. Горадня | Амбросаўскі |
| 26 | Шыліна Грыпіна | в. Старае Сяло | Старасельскі |
| 27 | Бабрава Аўдоля | в. Запрудзьдзе | „ |
| 28 | | | |
| 29 | Іськенкава Юста | в. Хвастова | Пагарэліцкі |
| 30 | Маркава Тацяна | в, Запрудзьдзе | Старасельскі |
| 31 | Аляксейчык Даміцэля | в. Татаркі | Амбросаўскі |
| 32 | | | |
| 33 | Скітовіч Ульяна | в. Пагарэльцы | Пагарэліцкага |
| 34 | Сыраватнікава Мар'яна | в. Плітніца | Старасельскі |
| 35 | Аляксейчык Даміцэля | в. Татаркі | Амбрасаўскі |
| 36 | Пліс Тацяна | в. Хвастова | Пагарэліцкай |
| 37 | | | |
| 38 | Маркава Тацяна | в. Запрудзьдзе | Старасельскі |
| 39 | | | |

| № | Прозьвішча і імя | Назоў мясцовасьці | Сельсавет |
|---|---|---|---|
| 40 | Скітовіч Паўліна | в. Пагарэльцы | Пагарэліцкі |
| 41 | Шыліна Грыпіна | в. Старае Сяло | Старасельскі |
| 42 | | | |
| 43 | Іспенкава Тацяна | в. Хвастова | Пагарэліцкі |
| 44 | Пліс Тацяна | " | " |
| 45 | Пшонная Тацяна | х. Увалокі | Старасельскі |
| 46 | | | |
| 47 | Пшонная Агата | х. Увалокі | Старасельскі |
| 48 | Буткевіч Ганна | в. Пузырова | Сіроцінскі Р. В. К. |
| 49 | | | |
| 50 | Шыліна Грыпіна | в. Старае Сяло | Старасельскі |
| 51 | Станевіч Барбара | в. Зьвяры | Жарабоцкі |
| 52 | Дуткевіч Ганна | в. Пузырова | Сіроцінскі Р. В. К. |
| 53 | Баброва Аўдоля | в. Запрудзьдзе | Старасельскі |
| 54 | | | |
| 55 | Шыліна Грыпіна | в. Старае Сяло | Старасельскі |
| 56 | Аляксейчык Мар'я | в. Татаркі | Амбросаўскі |
| 57 | Аляксейчык Даміцэля | " | " |
| 58 | Астрэйка Аляксандра | в. Старае Сяло | Старасельскі |
| 59 | | | |
| 60 | Самажнёва Крыстына | Старае Сяло | Старасельскі |
| 61 | Ламінская Вера | в. Завязье | Жарабоцкі |
| 62 | Станевіч Барбара | " | " |
| 63 | Старасельская Царква | Старае Сяло | Старасельскі |

Нумары рысункаў, пры якіх не паказаны крыніцы, былі зрысаваны у тэй самай ваколіцы, у той час, калі ня было проекту скласьці альбом.

